

*“Для чалавека няма няшчасця жудасней рабскага лёсу” (Сафокл)*

# ШКЛОЎ-*інфо*

**№14** (96) верасень 2014

ПАЗНАВАЛЬНА-АНАЛІТЫЧНАЯ МЯСЦОВАЯ ГАЗЕТА

*Выходзіць 2 разы ў месяц* *Заснавана ў ліпені 2009 г.*

чытайце нас зараз і на kamunikat.org

С 9 сентября вновь **подорожало топливо** — цены возрасли примерно на 4,1%. Стоимость 1 литра дизельного топлива (К4) составляет 10 950 рублей (сегодня - 10 500), бензина АИ-95-К5 — 10 850 (10 400), АИ-92-К5 — 10 100 (9700). Последнее повышение розничных и отпускных цен на нефтепродукты произошло 19 августа, тогда стоимость топлива выросла в среднем на 4,3%. Кстати, согласованы новые подходы к дальнейшему изменению розничных цен на автомобильное топливо в зависимости от курса доллара. Предельная максимальная розничная цена поступательно, в несколько этапов, индикативного бензина АИ-92 будет установлена в размере, эквивалентном 1 доллару США за 1 литр.

**В Беларуси резко снизился объем кредитов на жилье.** В Беларуси в январе-июле 2014 года объем кредитов на строительство и приобретение жилья составил 6,88 трлн рублей, что на 17,8% меньше, чем за аналогичный период прошлого года. На долю льготных кредитных ресурсов, выданных «Беларусбанком» и «Белагропромбанком», приходилось 93,7% всех кредитов в жилищное строительство. Годом ранее эта цифра составляла 77,5%. В целом же объем льготных кредитов снизился на 0,6% до 6,45 трлн.

## У ШКЛОЎСКІХ ЧЫНОЎНІКАЎ ЯК У БАЙЦЫ КРЫЛОВА

Узяцца за дадзены артыкул мяне падштурхнуў атрыманы, нарэшце, адказ на мае звароты ў Шклоўскі райвыканкам. І я думаю, што паважаным землякам будзе цікава яшчэ раз удаставерыцца ў тым – як працуюць шклоўскія “слугі народу”. А сутнасць справы ў тым, што ажно 25 красавіка 2014 года па даручэнні грамадзянскай ініцыятывы”Шклоўскі Магістрат” я звярнуўся да старшыні райвыканкама з шэрагам прапановаў, што тычацца часоў 16-18 стагоддзя, калі горад Шклоў меў прывілеі на стварэнне органа самакіравання – магістрата, з атрыманнем герба і пячаткі (Магдэбургскае права). З атрыманнем Магдэбургскага права, эканамічны стан Шклова ў тыя часы значна ўзрос і быў самы высокі за ўсе часы існавання горада. Таму ад імя “Шклоўскага Магістрата” я прапанаваў старшыні райвыканкама прыняць рашэнне аб размяшчэнні на гарадской Ратушы (захавалася з тых часоў) памятнай шыльды з інфармацыяй аб тых гістарычных падзеях. Па-другое, была ўнесена прапанова – Шклоўскаму райвыканкаму выступіць з ініцыятывай перад кіраўніцтвам краіны аб стварэнні на тэрыторыі горада свабоднай эканамічнай зоны, што надасць новы станоўчы імпульс для эканамічнага развіцця раёна. Разам са зваротам да старшыні райвыканкама былі перададзены і шэраг напрацовак і прапановаў ініцыятывы па рэфарамаванню эканомікі Шклоўшчыны. Нажаль, адказу на працягу месяца, як гэта патрабуе беларускае заканадаўства, з райвыканкама атрымаць не ўдалося. Чыноўнікі проста праігнаравалі дадзены зварот і прапановы. Як праігнаравалі і паўторны зварот на дадзеную тэму ад 16 чэрвеня гэтага года.

Устрапянуліся яны толькі пасля нашага звароту па гэтым пытанні да старшыні Магілёўскага аблвыканкама і пракурора Шклоўскага раёна. У сваім адказе ад 22.08.2014г. старшыня райвыканкама А.Бойка абяцае, што пытанне аб размяшчэнні шыльды з інфармацыяй аб тых гістарычных падзеях будзе дадаткова разгледжана. А вось з прапановамі аб стварэнні свабоднай эканамічнай зоны і рэфармаванні эканомікі раёна старшыня не пагадзіўся, спасылаючыся на тое, што Шклоў і Шклоўскі раён і так развіваюцца ўстойліва ў адпаведнасці з Праграмай сацыяльна-эканамічнага развіцця Шклоўскага раёна на 2011-2015 гады. І, нават, прапанаваў азнаёміцца з гэтай Праграмай. Дазволю тут сабе не пагадзіцца з падобнымі заявярэннямі аб паспяховасці развіцця раёна. Бо не ад дабра многія шклаўчане шукаюць “шчасце” як за межамі раёна, так і за межамі краіны. Не ад дабра кожны год насельніцтва

раёна скарачаецца на некалькі соцен чалавек. А што скажа старшыня на тое, што некаторыя вядучыя прадпрыемствы горада і раёна на сённяшні дзень сталі стратнымі? У той жа час у апошнія гады ўсю краіну ўскалыхнулі шэраг карупцыйных скандалаў з удзелам чыноўнікаў Шклоўскага райвыканкаму і шэрагу прадпрыемстваў раёну...

У загалоўку дадзенага артыкула я скарыстаў параўнанне справаў шклоўскіх чыноўнікаў з творам Крылова. І паважаны чытач можа не адразу зразумець – пры чым тут байкі…

А ўсё вельмі проста. Як пазначана ў дазеным лісце з райвыканкама, да падрыхтоўкі адказу на мой зварот акрамя старшыні былі прыцягнуты яшчэ трое чыноўнікаў. Гэта намеснік старшыні райвыканкаму Гузаў, загадчык ідэялагічнага аддзелу Артамонаў, загадчык аддзелу па працы са зваротамі грамадзян Ігнатовіч. Гэта значыць, што ажно чацвера чыноўнікаў амаль чатыры месяцы (па беларускаму заканадаўству дапускаецца адзін месяц) сачынялі адказ падобны на байку. Працуючы чатыры месяцы над адказам, яны яшчэ ўпадобіліся чатыром героям аднаго з твораў вядомага байкапісца, што імкнуліся сыграць “квартет”…

На заканчэнне дадзенага расповяду, хачу паабяцаць паважаным землякам працяг гэтага артыкулу, з апісаннем далейшых падзей вакол узнятых пытанняў. У бліжэйшы час пастараюся азнаёміцца з Праграмай развіцця Шклоўскага раёну на 20011-2015 гады і расказаць ім, як “шчаслівa” яны жывуць згодна пастаноў райвыканкаму.

Намеснік старшыні БНФ ***Р.Кастусёў***

# З аптымізмам у будучае

25 жніўня 2014 г. у Шклове адбыўся справаздачна-выбарчы сход раённай арганізацыі БНФ. У парадак дня было пастаўлены 4 пытанні: справаздача старшыні арганізацыі; абранне кіраўніка партыйнай арганізацыі; абранне дэлегатаў на з’езд партыі і інфармацыя аб сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне. Па першаму пытанню выступіў старшыня Шклоўскай партыйнай арганізацыі Алейнікаў Уладзімір, які распавёў пра тыя справы, якія былі зроблены сябрамі партыйнай арганізацыі за мінулы перыяд.



Ён падкрэсліў, што прынцыповая пазіцыя асобных сяброў партыйнай арганізацыі вельмі дадатна ўплывае на грамадскасць раёна і працоўныя калектывы, дзе яны працуюць. Асабліва адзначыў удзел партыйных актывістаў у зборы подпісаў за працяг будаўніцтва Лядовага палаца, прынцыповую пазіцыю па сітуацыі з падтапленнем дамоў ракой Серабранкай – якраз актыўнасць грамадзян вымусіла мясцовыя ўлады пачаць работы па будаўніцтву дамбы. Не апошнюю ролю ў завяршэнні будаўніцтва дзіцячага карэкцыйнага цэнтра адыграла актыўнасць сяброў партыі БНФ. Падчас апошняй выбарчай кампаніі з іх дапамогай грамадскасць дамаглась публікацыі праўдзівай інфармацыі аб адным з кандыдатаў у дэпутаты раённага Савету, што адыграля сваю ролю ў выніках галасавання – былога судзімага старшыню райсавету нават не абралі дэпутатам.

Сябры партыйнай арганізацыі займаліcь распаўсюдам інфармацыі аб сацыяльна-эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў Беларусі і свеце. Моладзь правяла пікет супраць размяшчэння расійскіх ваенных баз на тэрыторыі нашай краіны, што вельмі пазітыўна ўспрынялі шклаўчане. На 8 сакавіка па гораду распаўсюдзілі ўлёткі са зваротам простай жанчыны да ўладаў. Спадар Алейнікаў адзначыў, што відавочна за справаздачны перыяд узрасла колькасць прыхільнікаў БНФ як вынік дадатнай працы Шклоўскай партыйнай арганізацыі.

Выступаючыя сябры партыйнай арганізацыі адзначалі, што ў палітычнай працы не трэба спяшацца, каб не памыліцца. Надышоў час уважлівых дзеянняў і не толькі для апазіцыі, але і для ўлады навогул. Тое, што людзі прывязаны да працоўных месц, прыкметна змяншае іх грамадскую і палітычную актыўнасць, але ж і сцягвае спружыну народнай незадаволенасці, якая яшчэ спрацуе. Адзначана ўзрастаючая палітычная актыўнасць мясцовай моладзі.



Менавіта дзейнасць маладых партыйных актывістаў, якіх узначальвае Яраслаў Фесько, надала

штуршок для працягнення будаўніцтва Лядовага палаца ў Шклове. Сам Яраслаў лічыць, што людзей паважаюць за ўчынкі, за добрыя справы, таму і ёсць патрэба ў пастаяннай працы.

Яго сябра Сяргей лічыць, што шклаўчанам пакуль даражэй “хлеб”, чым свабода, што адзіны спосаб змяніць чалавека – паўплываць на яго свядомасць. Маючы яшчэ невялікі жыццёвы вопыт, Сяргей заўважыў, што раней свядомасць людзей вызначаў гурт, а зараз амаль кожны замкнуўся ў сваёй скарлупе, а многія нават жывуць па прынцыпу “чалавек чалавеку воўк”.

Яшчэ адзін малады сябра партыі Дзмітры прапанаваў больш цесна і эфектыўна працаваць з моладдзю, выкарыстоўваць яе патэнцыял.

Было заўважана, што на дзяржаўным узроўні мяняюцца адносіны да беларускай мовы, нават Прэзыдэнт пачаў ёй карыстацца на афіцыйным узроўні. Рэзкае пагаршэнне эканамічнай сітуацыі і ўсё узрастаючая залежнасць ад ўсходняй суседкі вымушаюць улады выкарыстоўваць патэнцыял мовы ў стасунках з другімі краінамі, прыцягнені турыстаў на тэрыторыю Беларусі.

Старшынёй партыйнай арганізацыі зноў абраны Уладзімір Алейнікаў, якія падзякаваў сяброў арганізацыі за давер і паабяцоў вывесці працу партыйнай арганізацыі на новы ўзровень. Таксама былі абраны тры дэлегаты ад Шклоўскай арганізацыі на з’езд БНФ, які павінен хутка адбыцца ў Мінску.

З аналізам сацыяльна-эканамічнага становішча ў краіне выступіў намеснік старшыні партыі БНФ Р.Кастусёў, які распавёў пра захады ўлады па выпраўленню хібаў у эканоміцы дзяржавы, якія ўжо прывялі да збяднення народу. Таксама выклаў пазіцыю партыі ў галіне эканомікі, якая кардынальна разыходзіцца з дзяржаўнымі падыходамі. Пры гэтым ён адзначыў, што калі Урад робіць стаўку на камандна-адміністратыўныя метады кіравання, якія сябе дыскрэдытавалі ва ўсім свеце, то партыя БНФ за рынкавую эканоміку.



Таксама ён распавёў пра сітуацыю ва Украіне і якія наступствы могуць быць для Беларусі пры эскалацыі канфлікту. Выказаліс па гэтаму пытанню У.Алейнікаў, які звярнуў увагу на пабудаваную рабскую сістэму найму, і П.Мігурскі, распавёўшы пра галоўныя складнікі рынкавай эканомікі і ў якой прапорцыі яны рэалізаваны ў Беларусі. П.Мігурскі падкрэсліў, што ігнараванне напрацаваных цывілізацыяй падыходаў у арганізацыі дзяржавы і грамадства можа кепска адбіцца на будучыні краіны.

*А.Сцяклоўскі*

## Справаздачна-выбарчы сход раённай філіі ТБМ імя Ф.Скарыны

25 жніўня адбыўся справаздачна-выбарчы сход Шклоўскай філіі таварыства беларускай мовы імя ф.Скарыны. са справаздачай выступіў кіраўнік філіі А.Грудзіна, які асаблівую ўвагу звярнуў на тое, што не атрымалась у працы філіі.



Але, трэба адзначыць, што недахопы ў працы філіі носяць хутчэй аб’ектыўны характар, бо з’яўляюцца вынікам неразумення мясцовымі ўладамі перспектывы выкарыстання беларускай мовы ў афіцыйнай і паўсядзённай практыцы. На жаль, у Шклоўскім раёне не працуе тапанімічная камісія пры райвыканкаме, у горадзе так і не вырашылі пытання надаць адной з вуліц імя М.Зарэцкага, аб’явы на чыгуначнай станцыі па-ранейшаму робяцца на расейскай мове. У дакладзе адзначана, што ў справаздачны перыяд сабраны і пералічаны фінансавыя ахвяраванні на дзейнасць ГА “Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. Старшыня таварыства Аляксандр Грудзіна выступіў на навукова-краязнаўчай канферэнцыі пад назвай “20 век на Шкловщине” з паведамленнем “Царкоўная Унія і гісторыя некалі галоўнага храма Шклова”, якая адбылася 30 студзеня 2013 года ў Шклоўскім гісторыка-краязнаўчым музеі і 26 сакавіка на раённых краязнаўчых чытаннях “Шклоўшчына турыстычная” прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння шклоўскага краязнаца Міхаіла Фёдаравіча Ільюшэнкі з паведамленнем “Залатое кола, або залаты квартал Шклова”. Сябры таварыства Аляксандр Грудзіна і Пётр

Мігурскі прынялі ўдзел ў навукова-практычнай канферэнцыі “Магдэбургскае права на Магілёўшчыне: учора, сёння, заўтра”. Па выніках канферэнцыі выдадзена кніга пад назвай “Магдэбургскае права на Магілёўшчыне: учора, сёння, заўтра. Магілёў, 2012 год”. У кнізе змешчана праца А.Грудзіны і П.Мігурскага “Гістарычны брэнд Шклова і прывабнасць інвестыцый”. Таксама навукова-краязнаўчае даследванне “Яўрэі Шклова” (А.Грудзіна) увайшло ў кнігу: “Этнічная, моўная і культурная разнастайнасць у сучаным грамадстве. Зборнік навуковых прац удзельнікаў Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі 29-30 мая 2014 года. Магілёў, 2014 год”. 4 студзеня гэтага года на адкрыцці незалежнага грамадскага цэнтра (г.Шклоў) была зладжана прэзентацыя-фотападарожжа па Шклову XVI-XIVII стагоддзяў. якая была падрыхтавана раённай арганізацыяй ТБМ. На пасяджэнні таварыства прыняты наступныя звароты: да Міністэрства культуры Беларусі супраць спробаў ліквідаваць Літаратурны музей Максіма Багдановіча як юрыдычную асобу і такім чынам панізіць яго статус, да старшыні Шклоўскага райвыканкама з просьбай паспрыяць у наданні адной з вуліц горада Шклова імя беларускага пісьменніка Міхася Зарэцкага (Касянкова) і да Магілёўскага аддзялення Беларускай чыгункі аб выкарыстанні беларускай мовы ў гукавых аб’явах на чыгуначнай станцыі “Шклоў”. Асобныя матэрыялы сяброў таварыства: Л.Анціпенкі, А.Грудзіны, Р.Кастусёва, П.Мігурскага грамадска-палітычнага, літаратурнага і гісторыка-краязнаўчага накірункаў друкаваліся ў газеце ГА “Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны” “Наша слова”, а таксама ў раённай газеце “Ударны фронт”, пазнавальна-аналітычнай мясцовай газеце ШКЛОЎ-*інфо* і беларускіх інтэрнэт-выданнях. Старшынёй філіі зноў абраны А.Грудзіна. Таксама абраны дэлегат на з’езд ТБМ імя Ф.Скарыны.

*А.Сцяклоўскі*

## Рыгор Кастусёў. Як супрацьстаяць “ветру аншлюсу” з усходу

**Што меней часу застаецца да чарговай прэзідэнцкай кампаніі 2015 году, то ўсё трывожней і трывожней становіцца на душы за лёс нашай роднай краіны, нашай Беларусі. Як паказвае час, палітычныя і эканамічныя падзеі ўнутры краіны, так і за яе межамі развіваюцца вельмі імкліва, і “вецер аншлюсу” з усходу з кожным днём толькі ўзмацняецца. Канчатковым каталізатарам працэсаў па вызначэнні лёсу Беларусі і можа стацца гэтая прэзідэнцкая кампанія.**

Нажаль, на сёння ў беларускім грамадстве адсутнічае неабходная кансалідацыя, якая змагла бы пры неабходнасці падштурхнуць усіх да абароны сваёй Айчыны. Правячае чынавенства краіны актыўна занята вырашэннем жыццёва важнага для іх пытання — сваім абагачэннем, прадстаўнікі кіруючых органаў сілавых структураў “глядзяць у рот” сваім калегам з Усходу. І тым, і другім няма розніцы, пад якім сцягам яны будуць сядзець у кіруючых крэслах, і чый партрэт будзе вісець у іх працоўных кабінетах. Калі раней кіраўніцтва Беларусі хоць якім чына рэагавала на драпежніцкія памкненні усходняй суседкі, накшталт далучэння Беларусі шасцю абласцямі, то ў апошнія часы яно пабаіваецца нават неяк рэагаваць на падобныя выпады. А рэагаваць ёсць на што і ёсць над чым задумацца. Чаго толькі варта заява віцэ-спікера расійскай Дзярждумы Жырыноўскага аб неабходнасці адраджэння Расійскай імперыі, з якой ён выступіў перад прэзідэнтам, прэм’ер-міністрам і дэпутатамі Дзярждумы Расійскай Федэрацыі 14 жніўня ў Ялце. Словы Жырыноўскага прагучалі як “бальзам на сэрца” прэзідэнту РФ, які ўжо шмат год толькі і марыць аб гэтым. Пасловах Жырыноўскага, у іх ужо ёсць і кандыдатура на пасаду Вярхоўнага кіраўніка імперыі ў асобе Пуціна. Разважаючы аб узрастаючых пагрозах для незалежнасці нашай краіны, аб прадстаячай прэзідэнцкай кампаніі, робячы канкрэтныя высновы, я заўсёды імкнуся аглянуцца назад у недалёкае мінулае — часы мінулых прэзідэнцкіх кампаній, падзеі якіх прайшлі праз самае сэрца і пакінулі на ім свой след…

…І заўважаю, што і ў палітычным асяродку (не бяру пад увагу праўладныя партыі) няма неабходнай кансалідацыі ў пытаннях абароны нашай дзяржавы. Нажаль, ужо зноўку,больш чым за год да прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, як і ў 1994, 2001, 2006, 2010 гадах, можна заўважыць шматлікія спробы некаторых апазіцыйных палітыкаў “застолбить” за сабой месца, або пазіцыю пракрамлёўскага беларускага палітыка з мэтай чакання новых “імпульсаў дэмакратыі” з Крамля. Ужо зноўку , як гэта было ў 2001 г., гучаць размовы аб пошуку прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта, які б падабаўся не толькі Захаду, а і Крамлю. Ужо зноўку, як гэта было ў 2006 і 2010 гадах, шэрагам палітыкаў вядуцца кулуарныя перамовы з мэтай атрымання палітычнай і фінансавай

падтрымкі з Усходу. Зноўку, як і напярэдадні мінулых кампаній, нярэдка гучыць “одобрямс” дзеянням Крамля на тэрыторыі Беларусі. Разыходжанні апазіцыйных палітычных арганізацый у падыходах да ацэнкі ўзроўню пагрозаў незалежнасці краіны выліліся задоўга да сённяшняга дня ў фармаванне двух кааліцый апазіцыйных сілаў. І калі адзін бок інтэнсіўна выступае за выхад Беларусі з разнастайных саюзаў, створаных у межах краін былога Савецкага Саюза, за вывад замежных вайсковых базаў з тэрыторыі краіны, то прадстаўнікоў другой задавальняе ўваходжанне Беларусі ў саюзную дзяржаву разам з Расіяй, у Еўразійскі саюз, у іншыя аб’яднанні…Нават планы расейскага боку па размяшчэнні ў 2015 годзе на тэрыторыі Беларусі, у Баранавічах, авіяпалка знішчальнікаў Су-27 не ўспрымаюцца імі як элемент узрастаючай пагрозы для незалежнасці нашай краіны. Размяшчэнне расійскай вайсковай базы, па іх меркаваннях, пойдзе толькі на карысць Беларусі. Як і ў час прэзідэнцкай кампаніі 2010 года, у якой Партыя БНФ удзельнічала як самастойная палітычная сіла, на дадзеным этапе перад ёй зноўку паўстае складаная задача — змаганне за Беларусь на два “франты”: і з існуючым правячым рэжымам, і з магчымымі прарасійскімі кандыдатамі. Нязменная пазіцыя Партыі БНФ, як абаронцы нацыянальных інтарэсаў, на сёння застаецца адзінай кансалідуючай ідэяй, вакол якой павінны яднацца здаровыя палітычныя сілы і дэмакратычнае грамадства ў змаганні ЗА БЕЛАРУСЬ.

Нацыянальныя інтарэсы, а не зацікаўленасць асобных груповак, павінны быць асновай нашай знешняй і ўнутранай палітыкі. Для ўсіх нас Беларусь ёсць адзінай і непаўторнай Бацькаўшчынай.

Толькі разам мы здольныя супрацьстаяць узмацняючамуся “ветру аншлюсу” з Усходу і дамагчыся годнага і незалежнага жыцця на беларускай зямлі.

Читать полностью: http://naviny.by/rubrics/opinion/2014/08/17/ic_articles_410_186323/

## Яго талент і зараз уражвае

### (знакамітыя людзі Шклоўшчыны)

Сёлета спаўняецца 360 год, калі пасля заняцця рускімі войскамі Шклова ў 1654 годзе, жыхар Шклова Клім Міхайлаў трапіў да маскоўскага князя Р.С. Куракіна. У Маскве князь Куракін ажаніў Кліма са сваёй дваровай дзеўкай Анюткай. Потым быў перададзены Куракіным патрыярху Нікану для аздаблення Васкрасенскага сабора Нова-Іерусалімскага манастыра на Істры. У далейшым Клім Міхайлаў быў пераведзены на службу ў Палату разьбярскіх і сталярных спраў, адначасова з ім туды трапілі майстры сталярнай справы з Іверскага манастыра — Андрэй Фёдараў, мяшчанін з Оршы, Герасім Акулаў з Дуброўны, Восіп Андрэеў з Вільні, Якаў Іваноў з Віцебска. Непасрэдна Міхайлава далучылі памочнікам старцу Арсенію, вопытнаму беларускаму рэзчыку, які даўно працаваў для Маскоўскага двара. Тым жа часам Міхайлаў меў і сваіх вучняў. Хутка, па пераводзе да Палаты разьбярскіх і сталярных спраў, у 1667—1668 гг. разам з іншымі майстрамі аздабляў новы царскі палац у Каломенскім. Цудоўнае ўражанне рабіла раскошная ўнутраная апрацоўка палаца, аздобленая пазалотай аб’ёмная ажурная разьба, узорыстыя вокны, яркія шматколерныя кафлі печаў, мастацкі роспіс сцен і столі, розныя карнізы, кранштэйны. Шчыты пакрываліся пазалотай або размалёўваліся “жывапісным пісьмом”. Талент Кліма Міхайлава асабліва праявіўся, калі разам са старцам Арсеніем і Сцяпанам Зіноўевым была створана «Іарданская сень» (1668), яе калонкі і шацёр аздобленыя пазалочанай разьбой і каляровым роспісам.

Калі ў 1681 годзе Арсеній памёр, Клім заняў яго месца на чале ўсіх крамлёўскіх рэзчыкаў. Пад кіраўніцтвам Міхайлава створаны іканастасы трох цэркваў у Ізмайлаве. Потым шклоўскі майстар кіраваў групай беларускіх разьбяроў пры стварэнні помніка сусветнага значэння – пяціяруснага іканастаса Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра ў Маскве.

Аўтару гэтых радкоў напрыканцы 90-х гадах давялося прысутнічаць на экскурсіі ў Смаленскім саборы Новадзявочага манастыра. Аб тым, што славуты іканастас створаны менавіта беларускімі майстрамі, маскоўскі экскурсавод у сваёй прамове не згадваў. А вось імя Кліма Міхайлава ўсётакі прагучала, але як майстра з горада **ШИЛОВА.**

Апроч кліраса і іканастаса Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра, з работ Кліма Міхайлава на нашых дзён захаваўся рэдкі (цяпер адзіны) паліхромны разны іканастас, зроблены на заказ цара Фёдара Аляксеевіча, для палацавай царквы Васкрасення Славушчага ў Крамлі.

Сёння імя Кліма Міхайлава адсутнічае ў тапаніміцы горада Шклова і як мясцовую знакамітасць ведаюць пра яго амаль адзінкі. Няўжо ён так і застанецца рускім майстрам з горада **ШИЛОВА?**

Алесь Грудзіна

*А.Петрусевіч*

# Сёлета споўнілася 350 гадоў каранацыі Станіслава Панятоўскага

На першы погляд гэта падзея нібыта не мае да Шклова ніякага дачынення. Праўда, у працы выдатнага савецкага пісьменніка В. Пікуля "Фаварыт"каротка ўказвалася, што кароль Рэчы Паспалітай і Вялікі князь ВКЛ Станіслаў Аўгуст Панятоўскі меў недзе на Магілёўшчыне невялікую рэзідэнцыю і спыняўся там на адпачынак па дарозе ў Санкт – Пецярбург.

Станіслаў Аўгуст Панятоўскі (1732 – 1798 гады) нарадзіўся у мястэчку Воўчын Брэсцкага павета, сёння Камянецкі раён. Да каранацыі яго звалі Станіслаў Антоні. Бацькам будучага караля з'яўляўся буйны магнат герба Цёлак Станіслаў Панятоўскі. На працягу жыцця ён займаў розныя высокія пасады: падскарбі вялікі літоўскі, ваявода мазавецкі, кашталян кракаўскі і іншыя. Малады Станіслаў Аўгуст меў добрыя магчымасці для выдатнай кар'еры, што і спраўдзілася на самой справе.

Будучы кароль атрымаў добрую хатняю адукацыю, скончыў калегіум тэатынаў у Варшаве. У маладосці Панятоўскі шмат падарожнічаў па Еўропе, пэўны час жыў у Англіі і Францыі. Ужо ў дваццаць два гады ён стаў стольнікам Вялікага Княства Літоўскага. У 1757 годзе Панятоўскага прызначылі на пасаду сакратара, а потым і пасла Саксоніі і Рэчы Паспалітай у Расійскай імперыі. У Санкт – Пецярбургу Станіслаў Аўгуст правёў каля сямі гадоў і вельмі зблізіўся з вялікай княгіняй Кацярынай Аляксееўнай (будучай імператрыцай Кацярынай II) і меў ад яе дачку. Менавіта ў гэты час, ён часта ездзіў у Рэч Паспалітую і вяртаўся ў Расію. Таму невыпадкова, што яму спатрэбілася рэзідэнцыя недзе пасярэдзіне шляха з радзімы ў Расійскую імперыю.

Выбар паў на Шклоўшчыну. Для гэтага былі аб'ектыўныя падставы. У першую чаргу прыналежнасць да сям'і Чартарыйскіх. Прадстаўнікі роду Чартарыйскіх на працягу 15-18 стагоддзяў займалі вышэйшыя дзяржаўныя і адміністратыўныя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім, валодалі шматлікімі маёнткамі ў тым ліку і Шкловам. Менавіта маці будучага караля Канстанцыя (гады жыцця: 1700 – 1759) была з роду Чартарыйскіх. Непадалёку ад вёскі Крывель на левым беразе Дняпра, Панятоўскі набыў у езуітаў невялікае зямельнае ўладанне. Гэты населены пункт атрымаў назву Станіслававa Аўгустова ці проста Аўгустова. Тут быў пабудаваны з цэглы вялікі палац, нажаль невядома як ён выглядаў, у літаратуры не захавалася апісання вышэйзгаданага палаца. Хутчэй за ўсё, ён выглядаў цікава і таямніча, невыпадкова сюды прывозілі гімназістаў на экскурсію ў пачатку XX стагоддзя. На Магілёўшчыне гэты паўразбураны палац быў аднім з сведкам былой велічы Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага. Параходныя экскурсіі да Шклова ці Оршы заўсёды спыняліся ў Аўгустова. У сваім палацы Станіслаў Аўгуст бываў у асноўным у перыяд паміж 1757 і 1763 гадамі.

Дакументы ў асноўным тлумачыць прыезды Станіслава Аўгуста ў вёску Аўгустова, як паездкі на паляванне. Быццам каралю падабалася сюды прыязджаць і паляваць на мясцовых дзікіх жывёл. Хаця, як указвалася раней, Панятоўскі бываў тут на шляху ў Пецярбург, для вырашэння службовых спраў ці для сустрэч з каханкай Кацярынай II. Пазней патрэба ў палацы прапала і тут ніхто не жыў. Невыпадкова, што Аўгустова Панятоўскі прадаў графу П. В. Завадоўскаму.

У часы Генеральнага межавання Магілёўскай губерніі ў сярэдзіне 1780 – х гадоў палац быў закінуты, у ім не жылі нават слугі. У сучаснай вёсцы захавалася некалькі месцаў , дзе раней былі нейкія архітэктурныя пабудовы, жыхары Аўгустова іх называюць капцамі. Дакладнага месца знаходжання палаца ніхто не ведае, гэта вёска належыла многім землеўладальнікам.

У другой палове XIX – пачатку XX стагоддзяў Аўгустова належыла памешчыку Крывашэіну, спачатку Апалону Канстанцінавічу, а потым яго жонке Марыі і іх нашчадкам. Пошукі дакументальных матэрыялаў па гісторыі палаца - адзін з цікавых напрамкаў доследу для навукоўцаў і краязнаўцаў.

Каралём Польшчы і Вялікім Князем Літоўскім Станіслава Аўгуста Панятоўскага выбралі 6 верасня 1764 года. Дзейнасць апошняга караля заўсёды ўспрымалася неадназначна. Раней яго апісвалі бязвольным палітыкам і прыпісвалі адну з галоўных роляў у знішчэнне Рэчы Паспалітай і ВКЛ. Сучасныя гісторыкі, ў большасці, адзначаюць імкненне Станіслава Аўгуста Панятоўскага захаваць сваю дзяржаву, але ён не змог супрацьстаяць палітычнай анархіі і ў 1795 годзе адрокся ад прастола.

Перажыў апошні кароль сваю дзяржаву нядоўга, яго пахавалі 12 лютага 1798 года ў Пецярбургу ў касцёле Святой Кацярыны. На гэтым трагедыя Панятоўскага не завяршылася, у 1936 годзе яго прах перахавалі на радзіме ў Воўчыне ў касцёле Святой Троіцы. У 1989 годзе праводзіліся польска – беларускія даследванні ў Воўчыне, у выніку якіх труна апошняга караля была знойдзена, яго рэшткі перавезлі ў Польшчу

і размясцілі ў касцёле Святога Яна. Вось які трагічны лёс напаткаў кіраўніка вялікай дзяржавы, якая згінула ў мінулым, як і прыгожы палац на Шклоўскай зямлі.



***На партрэце Станіслаў Панятоўскі***

## Прэзыдэнт адкрывае, у Шклове закрываюць

Усе ведаюць, як паважаны Аляксандр Рыгоравіч адносіцца да сацыяльнай сферы нашай дзяржавы: будуе новыя кватэры, лядовыя Палацы, стадыёны, пускае газ па Беларусі, адкрывае дзіцячыя садкі…Так і павінна быць у сучаснай краіне, асабліва пад патранажам усенародна выбранага Прэзідэнта. Без развіцця сацыяльнага складніка нашага жыцця разлічваць на прагрэс дзяржавы не прыходзіцца. Калісьці, яшчэ ў 1938 годзе, побач з селішчам знакамітых Эйцінгонаў, у Шклове быў пабудаваны нацыянальны яўрэйскі дзіцячы сад, які на працягу 76 гадоў ужо для дзетак усіх шклаўчан добра “выконваў” свае функцыі. Але ж літаральна некалькі дзён таму было прынята рашэнне яго закрыць, а дзетак размеркаваць па другім садкам горада. Адкуль такая спешка? Ды ўсё вельмі проста – у Крычаве абваліўся дах адной з гімназій, пры гэтым выпадкова абышлось без ахвяр. Хуценька па ўсёй вобласці дадаткова абследвалі навучальныя ўстановы, у выніку чаго “пад раздачу” закрыцця папаў і дзіцячы сад №1г.Шклова.



Калі, як кажуць, палажыць руку на сэрца, то гэты дзіцячы сад даўно ўжо не адпавядае званню дашкольнай установы – будынак ветхі, выгляд мае непрэзентабельны, камунікацыі зношаны, пры ўсёй акуратнасці ўтрымлівання будынка і тэрыторыі ад яго патыхае няўтульнасцю і бесперспектыўнасцю. Карацей, лёс яго быў вызначаны адсутнасцю капітальнага рамонту і чаканнем новага будынка, які чамусьці так і не здолелі пабудаваць. Дарэчы, чаму не пабудавалі, і не адзін, а два дзіцячыя садкі – на КСМ і В і па вуліцы Энтузіястаў, добра ведаюць супрацоўнікі райвыканкама – у свой час адзін са старшыняў райвыканкама вырашыў, што шклаўчанам пры гэтай уладзе размножвацца не абавязкова, і лагічна будзе пусціць грошы на іншыя аб’екты. Што за аб’екты і ці былі яны навогул, гісторыя маўчыць, бо рахманы былы кіраўнік зараз пры ўладзе, і крытыкаваць яго радавым шклаўчанам яшчэ не прышоў час. Дык вось, рашэнне па закрыццю дзіцячага садка было настолькі спантанным, што пераезду дзяцей у другія садкі вельмі здзівіліся не толькі бацькі, але і супрацоўнікі садка. Справа ў тым, што ў горадзе навогул не хапае месц у садках для дашкольнікаў, не гаворачы аб свабодных працоўных месцах. І калі дзіцячы сад №1 фактычна знаходзіцца ў цэнтры горада, бацькам прапануюць вазіць дзяцей нават у раён сельгастэхнікі. Гэта ж у колькі гадзін раніцы прыйдзецца збіраць немаўля ў дарогу, ды і сама “дарога” ў палове сёмай не цукар для малых ды і для дарослых. Ды і праезд каштуе грошай. Больш таго, не кожны з бацькоў у час прыйдзе на працу раніцай, ды і ўвечары таксама будуць праблемы.



Рашэнне аб закрыцці дзіцячага садка прымала абласная санстанцыя і зараз на мясцовым узроўні спытаць аб матывах лічы няма ў каго. Але ж і пытанне – а што, учора яшчэ можна было дзецям там знаходзіцца? А ці не маглі патрываць чыноўнікі (відавочна, што будынак яшчэ колькі год вытрымае) з рашэннем? Дарэчы, якраз бацькі разумеюць, што час працуе не на доўгачакае прыстанішча іх дзяцей, але і іх абурыла практычна імгненнае закрыццё ўстановы. Справа ў тым, што на чаргу ў дзіцячы сад у аддзеле адукацыі райвыканкама маладым бацькам трэба станавіцца адразу пасля нараджэння дзіцяці – толькі тады ёсць магчымасць уладкаваць праз паўтары гады сваё немаўля. Праблема даўно не новая з

уладкаваннем, але ж і пакуль не мае вырашэння – за паўгода ў раёне нарадзілась 190 дзяцей і большая частка з іх у Шклове. Зараз цяжарнымі ў раёне ходзіць 270 жанчын, каля 100 з іх зноў жа ў горадзе.

Бацькі чакаюць ад уладаў вырашэння праблема, але ж не трэба забываць і аб супрацоўніках дзіцячага садка – не зусім прадуктыўныя дзеянні абласных чыноўнікаў паставілі перад жыццёвым выбарам некалькі шклоўскіх сямей – многія не ведаюць, што рабіць далей. Галаўны боль і для аддзела адукацыі выканкама – працауладкаваць людзей яны павінны, а куды?

Як заўсёды пытанне – а што прапанаваць людзям у гэткім выпадку – сёння дзіцячых месц няма. Улады гавораць, што грошай на будаўніцтва таксама няма – зачараванае кола атрымліваецца. Тое што ў самім райвыканкаме ёсць крыніцы фінансавання ў выглядзе скарачэння нікаму не патрэбных аддзелаў, напрыклад, пісем і скаргаў, аддзела, якім ударна кіраваў да апошняга часу спадар Семянкевіч, ідэолагаў, якія ніякім чынам не уздзейнічаюць на вынікі гаспадарання ў раёне. Справа нават не ў асобах, якія займаюць гэтыя пасады - справа ў марнасці навогул працы гэтых “спецыялістаў”.

Але ж бацькі прапаноўваюць свой і пакуль не зусім забыты выхад – гэта метад народнага будаўніцтва, а вось спонсары фінансавыя, гэта прадпрыемствы горада, дзеці працаўнікоў якіх маюць патрэбу ў сучасным дзіцячым садку. І такіх прадпрыемстваў не так ужо і мала ў горадзе. Справа за ўладамі!

*П.Мігурскі*

## Внимание, радионуклиды!

Содержание радионуклидов в некоторых пробах грибов и ягод, собранных в Могилевской области, превышает допустимый уровень в 20 раз В текущем году превышение допустимых уровней содержания радионуклидов цезия-137 выявлены в пробах дикорастущих ягод, доставленных для исследований жителями деревень Дашковка (Могилевский район), Липовка (Быховский район), Заводь Вировая (Славгородский район). В пробах грибов из деревень Чечевичи (Быховский район), Рысин, Ганновка, Слобода (Климовичский район), Кожемякино (Краснопольский район), Веприн (Чериковский район). В некоторых пробах грибов содержание радионуклидов превышало допустимый уровень в 20 раз. - В силу специфических свойств лесов наблюдается повышенный переход радионуклидов из почвы в растения и грибы, поэтому в ближайшие годы не предвидится снижение радионуклидов в лесных грибах, ягодах, дичи, - комментирует врач-гигиенист отдела радиационной гигиены Могилевского областного ЦГЭиОЗ Лариса Щемелева. - Регулярное потребление даров леса с высоким содержанием радионуклидов является одной из причин повышенного содержания радионуклидов в организме человека. Снижение содержания радионуклидов в грибах можно добиться путем их отваривания в течение 15-60 минут в соленой воде с добавлением уксуса или лимонной кислоты и смене воды через каждые 15 минут. При такой обработке сыроежек, зеленок, рядовок и волнушек в течение 30 минут концентрация радиоцезия снижается в 2-10 раз. Несколько больше времени (45 минут) для снижения содержания радионуклидов для трубчатых грибов (подберезовика, боровика, польского гриба, подосиновика). При сушке грибов содержание радионуклидов в них не снижается, поэтому сушить нужно только «чистые» грибы. http://mogilevnews.by/news/10-09-2014-10-17/13200

## Магіляўчанка выйграла суд у мясакамбіната

Жыхарка Магілёва Таццяна Масалкова выйграла працэс супраць ААТ “Магілёўскі мясакамбінат”. Кропка ў разбіральніцтве была пастаўленая ў судовым пасяджэнні суда Кастрычніцкага раёна г. Магілёва, якое адбылося 26-га жніўня.

Таццяна Масалкова з восені 2013 г. працавала на ААТ “Магілёўскі мясакамбінат” спецыялістам па продажах у аддзеле збыту. Але пасля некалькіх месяцаў працы яна была вымушана звярнуцца ў суд з пазовам супраць працадаўцы, паколькі прадпрыемства не выконвала свае абавязальніцтвы: мясакамбінат сістэматычна заніжаў ёй заробак, не налічваючы прадугледжаныя кантрактам надбаўкі, а адпаведныя патрабаванні супрацоўніцы пакідаў без увагі. Суд у асобе суддзі Галіны Кавалёвай збольшага задаволіў пазоў Т.Масалковай. Прадстаўніком Т.Масалковай у працэсе выступаў праваабаронца Барыс Бухель. Цяпер дзяржпрадпрыемства будзе вымушана звольніць супрацоўніцу па п.1 арт.41 Працоўнага кодэкса Беларусі і выплаціць ёй выхадное пасобіе.

Рэдактар І.Мігурскі Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад: 299 ас.
Адрас: 213018 Магілёўская в., Шклоўскі р., в.Дабрэйка. Тэл. 8 02239 92618;
E-mail: agro56@tut.by. РАСПАЎСЮД БЯСПЛАТНЫ. Падпісана ў друк 14.09.2014